# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 31 (962) ГОД XIX БЕЛАСТОК 4 ЖНІЎНЯ 1974 г. ЦАНА 60 гр.





*Выступае квартэт з Плёсак.*



*Спявае Люба Гаўрылюк.*

Сёлетнія фэстыны, якія арганізуюць павятовыя аддзелы БГКТ супольна з іншымі ўстановамі і арганізацыямі, праходзяць пад знакам святкавання 30-ай гадавіны Народнай Польшчы.

# ФЭСТЫН У КРЫНКАХ

Пад такімі лозунгамі адбылося ў нядзелю 14 ліпеня традыцыйнае БГКТ-оўскае свята ў Крынках Сакольскага павету. Кожны малады і пажылы ахвотна прыняў удзел у гэтай урачыстасці. Адбывалася яна на скверыку, у якім белым малаком абліліся кусцікі пахучага язьміну.

У афіцыйнай частцы былі прывітанні прадстаўнікоў партыйных і адміністрацыйных павятовых і мясцовых улад і даклад аб дасягненнях нашай краіны і ўсіх працоўных за трыццаць год народнай улады.

У другой частцы выступалі харавыя калектывы з беластоцкага гарадскога аддзела БГКТ і з Плёсак. На працягу дзвюх гадзін Крынкі жылі песнямі. Багаты рэпертуар хораў расшырылі сола, дуэты, трыё, квартэт. Воплескі, ад якіх гудзеў скверык, гаварылі аб поспеху выканаўцаў. Калектывы цешылі вока красачнымі беларускімі народнымі касцюмамі. У цэлым мястэчку было прыгожа і ўрачыста так, як прыстала на народны фэстын.

Пасля мастацкай часткі адбыліся конкурс грамадска-палітычных ведаў і спаборніцтвы матацыклістаў. На заканчэнне фэстыну адбылося народнае гулянне.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**







У ганаровай кнізе „ЛЮДЗІ 30-ГОДДЗЯ“ Беластоцкага ваяводства ёсць старонка, прысвечаная **Аляксандру Данілюку** з вёскі Тымянка ў Сямяціцкім павеце. Там можна прачытаць, што нарадзіўся ён 10 сакавіка 1919 года ў той жа вёсцы Тымянка, што змог закончыць ледзь пачатковую школу, ды і то ўжо пасля вайны, на курсах, што яшчэ ў красавіку 1945 года ўступіў у Польскую рабочую партыю, што ў небяспечны час у 1946-1948 г. узначальваў партыйную ячэйку ў сваёй вёсцы, што быў членам ОРМО і прымаў удзел у барацьбе з бандамі, што партыйная арганізацыя даверыла яму абавязкі солтыса, што ў 1947 годзе арганізаваў ў Тымянцы гурток Саюза барацьбы маладых (ЗВМ), што прымаў удзел у агульнадзяржаўным рэферэндуме, калі вырашаліся асноўныя прынцыпы народнага строю ў нашай краіне, што ў час выбараў у заканадаўчы Сейм Польскай Народнай Рэспублікі ў 1952 годзе ўзначальваў раённую камісію ў вёсцы Вінна Хролы Сямяціцкага павету, дзе яшчэ ў той час гаспадарылі „лясныя людзі“, што ў гадах 1949-56 быў членам гміннага і павятовага камітэта партыі і аднойчы выбіраўся нават у Ваяводскі камітэт, што пяць год (1951-56) працаваў намеснікам старшыні клюковіцкага ГС-у, а наступныя 10 гадоў узначальваў прэзідыум грамадскай рады нарадовай у Клюковічах, а затым быў адказным работнікам бюро гэтага прэзідыума і адначасова выконваў абавязкі сакратара па сельскагаспадарчых справах гміннага камітэта ПАРП у Клюковічах, што ў 1972 годзе выбралі яго старшынёю сельскагаспадарчай спулдзельні прадукцыйнай у Тымянцы, якою кіруе ён па сённяшні дзень. З гэтай жа **„Кнігі“** можна таксама даведацца, што ён ўзнагароджаны Залатым Крыжам Заслугі і значком „Заслужаны Беласточчыне“.

Падумаў я, што чалавека з такой багатай біяграфіяй цікава было б убачыць асабіста, і адправіўся ў Тымянку. Быў будні ліпеньскі дзень, адзін з нешматлікіх дзён, калі не ішоў дождж і па-сапраўднаму грэла сонца.

Данілюка я сустрэў на сенажаці. Якраз грузіў сена на воз, а жонка, Люба, яму дапамагала.

З выгляду — звычайны селянін. Невысокага росту, шчуплы, шустры чалавек, з пасівелымі валасамі, з тварам у маршчынах.

— Я толькі цяпер, пры народнай уладзе, дачакаўся людскога жыцця і зразумеў, што значыць быць чалавекам, — заявіў ён мне, і сказана гэта было не на паказ, але з нейкім глыбокім, унутраным пераканаинем, проста, ад душы.

— Навошта далёка шукаць? — гаварыў ён. — Хопіць, калі параўнаю лёс маіх уласных дзяцей і дзяцей майго бацькі. Сям'я ў мяне, слава богу, немалая, разам восем душ, пяцёра ж дзяцей... Усе яны паканчалі нейкія школы, раз'ехаліся па свеце, два сыны жывуць у Беластоку, маюць добрую работу, а пра бяду і голад могуць пачытаць толькі ў кніжках.

— Так яно і павінна быць, — заявіў я.

— А ці я гавару, што не? Толькі я памятаю сваё дзяцінства. Замест у школу, прыйшлося мне наймацца ў пастушкі. Раса ногі марозіла, камары

(Працяг на стар. 4)



## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве“

**Жніво, жніво, жніво... ● Сустрэча з землячкай Любай Красоўскай — мастаком з Сафіі ● Фэстын у Семяноўцы ● Краязнаўчы слоўнік — в. Азярок ● Вянкі, сплеценыя для Свіцязі ● І так бывае — Укінуў у калодзеж ● Сакольскі арыент ● Пра лістаноша Кастуся Каліноўскага са Старога Ляўкова ● Трагедыя Хірасімы ● Весткі з Гайнаўкі, Гарадка, Новаберазова, Ліпін, Белавежы Вулькі, Шудзялава ● Песня „Jeszcze nie raz“.**




На Гродзенскай вуліцы ў Саколцы стаіць нізенькі, аднапавярховы новы будынак. Спакойна тут наўкола, толькі ацепленыя самаходы час ад часу пад'язджаюць сюды з розных бакоў ваяводства, а нават з-за яго мяжы. Ля ўваходу на сцяне табліца з надпісам: Białostockie Zakłady Drobiarskie, Zakład Wylęgu Drobiu w Sokółce.

У сярэдзіне памяшкання ідэальная чысціня. Людзі працуюць у белых халатах, а санітарныя ўмовы, быццам бы ў акушэрскім аддзяленні бальніцы.

— І нічога ў тым дзіўнага, — гаворыць тэхнік прадукцыі Зофія Лось, — пры інкубатарах проста неабходна дысцыпліна гігіены.

Інкубатар у Саколцы працуе ўжо дзесяць год. Спачатку хапала куранят для навакольных мясцовасцей. Аднак дынамічнае развіццё птушкаводства, а асабліва новыя птушкафермы патрабавалі ўсё большай прадукцыі куранят. Сакольскі інкубатар не мог забяспечыць патрэб. Трэба было выбіраць: або разбудаваць памяшканне і карыстацца польскімі машынамі КУ-102, або астацца ў ранейшым, абсталёўваючы яго больш прадуктыўнымі галандскімі інкубатарамі.

У студзені мінулага года пачалі працаваць галандскія апараты, у якіх змяшчаецца на адзін раз 100.800 яек. Гэтыя апараты не толькі займаюць менш месца, але патрабуюць менш электрычнай энергіі.

У Польшчы такую апаратуру мае каля 10 інкубатараў, у тым ліку адзін на Беласточчыне, у Саколцы.

Сакольскі інкубатар прадукуе ў год 4,8 мільёна т.зв. мясных куранят. Але гэта яшчэ няпоўная магчымасць апаратуры. Спецыялісты гавораць, што лёгка можа тут вылупіцца 5,5 мільёна штук куранят у год.

(Працяг на стар. 4)




# Вучыць, як вучыцца

Дзетвара адпачывае яшчэ на канікулах пасля гадавой працы. Наступаючы новы навучальны год прынясе далейшыя змены, звязаныя з увядзеннем школьнай рэформы. Першае — гэта тое, што не ў адзін дзень распачынаецца навучальны год. На працягу навучальнага года, восенню, будуць вызначаны свабодныя дні на фізічную працу: перш за ўсё з думкай пра капанне бульбы ды цукровых буракоў.

Але не толькі гэта. Няспынна ідзе праца над далейшымі крокамі рэформы. Аб некаторых з іх расказаў журналістам міністр асветы і выхавання Ежы Кубэрскі.

Рэформа прадугледжвае, што клас будзе лічыць не больш чым 25 вучняў, паколькі такая колькасць вучняў у класе дасць магчымасць настаўніку заняцца вучнем індывідуальна, дазволіць рэалізаваць прынцып, што школа ёсць для ўсіх і для кожнага паасобна.

Але гэта толькі частка справы. У рэфармаванай школе вучні будуць карыстацца зусім іншымі падручнікамі. Падручнік будзе падзелены як бы на тры часткі: асноўная, у якой будуць пададзены найбольш фундаментальныя веды па данаму прадмету, а таксама частка А і Б. Першая частка А, цяжэйшая, будзе прызначана для больш здольных дзяцей. Частка Б — для тых дзяцей, якія наогул менш здольныя або менш здольныя па даным прадмеце. Справа ў тым, каб можна было як мага раней прыняць пад увагу зацікаўленні вучня і не вымагаць ад яго аднолькавых вынікаў па ўсіх прадметах. Пэўная колькасць асноўных ведаў будзе вымагацца ад усіх вучняў, але дзіця, напрыклад, вельмі здольнае ў галіне гуманітарных навук, не мусіць у такім самым маштабе прысвойваць веды па матэматыцы, фізіцы ці хіміі.

Каб усё гэта ўвесці ў нашыя школы, трэба правесці цэлы шэраг эксперыментаў. І ў нашым ваяводстве ў некаторых школах дзеці вучацца пановаму і маюць добрыя вынікі. Міністр Кубэрскі сказаў, што ў некалькіх школах матэматыку, прадмет, які выклікае найбольш клопатаў, выкладаюць зусім інакш, пачынаючы ад першых класаў, і вынікі атрымліваюць вельмі добрыя; здзіўляюцца нават бацькі з навуковымі ступенямі.

Для такога навучання трэба адпаведна падрыхтаваць настаўнікаў. Настаўнікі, якія павышаюць кваліфікацыю, атрымліваюць ільготы ў працы. Пакуль што ў школах, асабліва ў малых, не хапае спецыялістаў, і таму настаўнік спеву выкладае прыроду ці матэматыку. Дзіця, якое выходзіць з такіх рук, абавязкова будзе мець цяжкасці ў сярэдняй школе. Калі школа будзе дзесяцігодкай, патрэбна будзе менш спецыялістаў, але лепшых.

Рэформа прадугледжвае, што школа павінна быць цесна звязана з жыццём, а гэта абазначае, што будзе яе абавязваць эластычнасць. Ужо цяпер ёсць школы з т. зв. прадоўжаным днём, дзе ўсе ўрокі вучні робяць пад вокам настаўніка. Іншыя школы не задаюць урокаў дахаты. Аднак уласная праца вучня заўсёды неабходная. Дык новая школа павінна вучыць, як вучыцца. На працягу 10 год — у школе, а потым у жыцці. Дзеля гэтага трэба падрыхтаваць адпаведныя ўмовы. Распачата праца над цэлай сістэмай вучнёўскіх энцыклапедый і выданняў, якія будуць даваць цэласныя веды аб даным прадмеце. Гэтыя выданні так прадуманы, каб вучань, толькі пад кіраўніцтвам настаўніка, сам пераадольваў розныя ступені цяжкасцей. Калі які-небудзь прадмет яго асабліва зацікавіць, а да гэтага імкнецца новая рэформа, то па ім далейшых ведаў ён будзе ўжо шукаць самастойна.

**А. Карпюк**



# БЕЛАСТОК ПРЫГАЖЭЕ

Кожны, хто быў у Беластоку напярэдадні свята 22 ліпеня, не мог не заўважыць, як свяжэў і прыгажэў наш горад. З асаблівай увагай аглядалі прыезджыя і беластаччане раён Рынка Касцюшкі. Людзі спыняліся і глядзелі ўверх, дзе працавалі беластоцкія мастакі, і захапляліся малюнкамі і мазаікай, што прабіваліся праз рыштаванні. Перад самым святам усе рыштаванні былі зняты, і беластоцкі Стары Горад прадстаў перад намі ва ўсёй сваёй красе.

На першым плане гэтага здымка не відаць яшчэ шыльду, але ўжо працуе на месцы старога камісійнага магазіна аддзел варшаўскай „Дэсы“. Магазін знаходзіцца ў вельмі трапным і стылёвым месцы. Вядома ж, што турыст, які прыедзе ў Беласток, не праміне яго цэнтральнага месца — Старога Горада, а разам з тым зойдзе і ў „Дэсу“, дзе зможа сабе выбраць нейкую карціну, цікавы посуд, штосьці з антычнай мэблі, ці сярэбранай, непаўтаральнай біжутэрыі.

Плануецца, што ў гэтай частцы горада, якая ў выніку мазольнай працы нашых мастакоў беспадобна папрыгажэла, з часам будуць ліквідаваны звычайныя магазіны, а ўзнікнуць новыя кавярні з тэрасамі, бары „бістро“, магазіны з сувенірамі. Гэтая частка горада будзе мець свой стыль і будзе прыцягваць да сябе як беластаччан, так і прыезджых.

Аказваецца, што і манатонныя трыццацігадовыя шэрыя будынкі пры жаданні можна зрабіць аздобай горада.

**Ада Чэчуга**
Фота **Я. Цялушэцкага**




## Якая пенсія прыслугоўвае сялянам

Новы закон аб перадачы дзяржаве сельскіх гаспадарак за пенсію або грашовыя сплаты стварае сялянам значна больш карысныя ўмовы, чым закон, які абавязваў дагэтуль. Пенсія залежыць ад колькасці гектараў, перададзеных дзяржаве; пры гэтым яе велічыня не залежыць ад катэгорыі зямлі. Пенсія ўстаноўлена так, каб нават малазямельнаму селяніну запэўніць мінімум сродкаў існавання.

Паводле новага закону, за першыя два гектары селянін атрымлівае па 300 зл. у месяц за гектар. Вышэй двух гектараў і да 10 гектараў за кожны распачаты гектар лічыцца 100 зл., а звыш 10 гектараў за кожны распачаты гектар атрымоўваецца па 50 зл. З гэтага вынікае, што, напрыклад, за гаспадарку 2,5 га селянін атрымлівае 700 зл. пенсіі.

Устаноўленая такім спосабам пенсія не можа перавышаць 2.500 зл. у месяц.

З прывілею карыстаюцца сяляне, якія аддаюць дзяржаве зямлю, ураджайнасць якой знаходзіцца на вышэйшым узроўні, чым сярэдняя ў той самай гміне на такой самай катэгорыі зямлі. Пенсія гэткім сялянам павышаецца на 25%. Таму селянін, у якога ўраджаі вышэйшыя сярэдняй, калі мае, напрыклад 6 га, атрымае пенсію 1250 зл., а ягоны сусед, які гаспадарку занядбаў, атрымае за 6 гектараў толькі 1000 зл.

Калі ў склад гаспадаркі ўваходзіць лес, за кожны гектар лесу далічваецца дадаткова па 100 зл. ад гектара пры вартасці лесу ад 10 да 100 тысяч злотых, 200 зл. — калі вартасць лесу знаходзіцца ў межах 100—200 тысяч зл., і 300 зл. — пры вышэйшай ад 200 тысяч зл. вартасці лесу.

З гэтага вынікае, што калі вартасць акрэслена на суму меншую, чым 10.000 зл., за лес селянін атрымае столькі, колькі за звычайнае поле або сенажаць, а за добры лес можна атрымаць нават на 300 зл. больш, чым за іншыя ўгоддзі.

Калі селянін разам з гаспадаркай аддае будынкі, то атрымоўвае дадаткова 100 зл. у месяц, калі будынкі варты звыш 50—100 тысяч злотых, 200 зл. — пры вартасці будынкаў звыш 100 тысяч і да 200 тысяч і 300 зл. — калі агульная цана будынкаў перавышае 200 тысяч зл. Пенсія не павышаецца, калі будынкі варты менш чым 50 тыс. зл.

Нават тады, калі селянін аддае дзяржаве будынкі, яму прыслугоўвае права да бясплатнага карыстання з кватэры і гаспадарчых будынкаў у памерах, неабходных для яго патрэб. Калі ён зракаецца гэтага права, то атрымоўвае дадаткова 150 зл. у месяц.

Вартасць будынкаў акрэсліваецца паводле ацэнкі дзяржаўнай страховачнай ўстановы — ПЗУ, паводле якой плоцяць страхоўку.

Калі селянін мае даўгі ў дзяржавы, дзяржаўных або грамадскіх прадпрыемстваў, пенсія, аблічаная пададзеным вышэй спосабам, зніжаецца на 25%, калі задоўжанасць вышэй 25% і да 50% вартасці перададзенай дзяржаве гаспадаркі, і на 50% — калі задоўжанасць вышэйшая, чым 50% вартасці гаспадаркі.

Аднак у выпадку задоўжанасці гаспадаркі пенсія не можа быць ніжэйшая, чым за 2 га ўпраўных угоддзяў або лесу. Нават калі вартасць перадаваемай дзяржаве гаспадаркі меншая, чым даўгі, выплачваецца пенсія, як за 2 га зямлі.

Селянін, які атрымоўвае пенсію, можа сплаціць даўгі і тады атрымае поўную пенсію. На пакрыццё даўгоў залічаецца ў гэтым выпадку сума, на якую была зніжана пенсія.

Вартасць гаспадаркі вызначаецца паводле цэн, якія абавязваюць пры продажы дзяржаўнай нерухомай маёмасці.

**В. Склубоўскі**




**Niedziela 4.VIII.**
7.35 TV Kurs Rol. 8.35 Nowoczesność w domu i zagr. 9.00 Alarm przeciwpożar. 9.10 Bieg po zdrowie. 9.25 Pr. dnia. 9.30 W starym kinie — SADKO — film arch. radz. 11.00 Ex libris. 11.10 Antena. 11.30 Negro Spirituals śpiewa i objaśnia Roman Calzadilla (Kuba). 12.00 Dziennik. 12.20 Pr. wiejski. 12.40 Giacome Manzu — piękne prawdy — film dok. wł. 13.40 Piórkiem i węglem. 14.05 Nie tylko dla pań. 14.30 Spotkanie z pisarzem. 15.00 Los. Toto — Lotka. 15.15 Ich dwóch i operetka. 16.20 Refleksje obywatelskie. 16.35 Przyjąć czy odrzucić. 17.20 Transm. meczu piłki nożnej o mistrzostwo I Ligi. 18.15 Wiadomości sport. 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Paryska taksówka — film franc. 21.15 V Telew. Spotkanie z Balladą. 22.35 Informac. magazyn sportowy.

**Poniedziałek 5.VIII.**
16.10 Pr. dnia. 16.15 Oferty. 16.30 Dziennik. 16.40 Echo stadionu. 17.00 TELEFERIE. 18.10 Warszawskie perspektywy. 18.25 Osobliwe instrumenty. 18.40 Kronika Warsz. i Maz. 19.05 Lotnik — rep. film. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: J. Słowacki — „Maria Stuart". 21.50 Swieżym okiem — program publ. 22.20 Śpiewa Charles Aznavour. 22.50 Dziennik.

**Wtorek 6.VIII.**
9.00 Poranek Tel. Najmł. 10.05 Moje życie — film fab. radz. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Przegląd polonijny. 17.15 Sylwetki X Muzy. 17.40 Dla młodzieży. 18.10 Kronika Warsz. i Maz. 18.35 Eureka. 19.10 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Moje życie — film fab. radz. 21.25 Świat i Polska. 22.10 Wiadom. sport. 22.15 Program pod psem. 22.45 Dziennik.

**Środa 7.VIII.**
10.00 Nauczyciel z przedmieścia — film fab. ang. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Magazyn ITP. 16.55 Los. Małego Lotka. 17.05 Raport o Wiśle — film dok. TVP. 18.05 Kronika Warsz. i Maz. 18.25 Sprawozd. z II połowy meczu piłki nożnej I ligi. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Nauczyciel z przedmieścia — film fab. ang. 22.00 Wiadom. sport. 22.10 Dobry wieczór z Waldemarem — program TV Czechosł. 22.40 Dziennik.

**Czwartek 8.VIII.**
9.00 Poranek Tel. Najmł. 10.05 Al Capone i inni. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Koncert na czterech strunach. 17.00 TELEFERIE. 18.10 Kronika Warsz. i Maz. 18.30 Naczelnik z Argentyny — rep. film. 19.00 TEST. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Al Capone i inni. 21.10 Wiadom. sport. 21.20 Czym żyje świat. 21.50 I Polskie Targi Estrad. 22.20 Dziennik.

**Piątek 9.VIII.**
10.00 Janosik. 10.45 Felix i Otylia — film fab. rum. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Wielcy ludzie a muzyka — MARIA KONOPNICKA. 17.10 Turystyka i wypoczynek. 17.35 Studio Wakac. Tel. Młodych. 18.05 Kronika Warsz. i Maz. 18.25 Najlepsze z najlepszych — program pop. naukowy. 19.10 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Janosik. 21.05 Panorama. 21.45 Wiadom. sport. 21.50 Teatr TV: S. N. Behrman — „Biografia". 23.00 Dziennik.

**Sobota 10.VIII.**
9.00 Poranek Tel. Najmł. 10.05 Szatnia pełna królików — film fab. węg. 16.00 Pr. dnia. 16.05 Program I prop. 16.20 Reklama. 16.30 Dziennik. 16.40 Transmisja z międzypaństwow. zawodów pływackich kobiet: Polska — Francja. 17.20 Przed kamerą kameralnie — śpiewa Zygmunt Hobot. 17.45 Łowcy przeszłości — film dok. USA. 18.30 Pegaz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Szatnia pełna królików — film fab. węg. 21.40 Dziennik. 22.00 Wiadom. sport. 22.15 Na estradach świata — program rozr. wł.




**Piątek 2 sierpnia** — 7.30 Koncert. 8.00 Komedia film. 13.55 Pr. dnia. 14.00 Czterej pancerni i pies. 16.15 Film animow. 19.30 Festiwal piosenki żołnierskiej w Kołobrzegu. 20.35 Sport.

**Sobota 3 sierpnia** — 7.00 Pr. dnia. 8.45 Przegląd międzynar. 10.15 Film anim. 10.45 Film fab. 15.30 Filmy animow. 16.15 Film dokum. 17.15 Sport. 17.30 Film fab. 19.30 Koncert.

**Niedziela 4 sierpnia** — 7.00 Program dnia. 10.00 Koncert. 12.15 Film fab. 16.15 Film animow. 17.35 Film spektakl. 20.25 Sport (ragby).




**Białowieża** Nagrody i odznaczenia — pol. 6—7. Dekada strachu — USA 8—9. Uciekaj i daj się złapać — NRD 10—11.

**Czeremcha** Walter broni Sarajewa — jug. 6—7. Ja wam pokażę — NRD 10—11.

**Czyże** 10 dni bezpłatnego urlopu — bułg. Zazdrość i medycyna — pol. 7—11.

**Dubicze Cerkiewne** Godzina szczytu — pol. Wesele — pol. 7—11.

**Gródek** Czerwony płaszcz — duńs. 10—11.

**Kleszczele** Przygoda na wagarach — NRD 6—7. Prom — pols. 8—9. Doktór Popaul — franc. 10—11.

**Michałowo** West Side Story — USA 6—7. Oto jest głowa zdrajcy — angl. 8—9. Bitwa w wąwozie — radz. 10—11.

**Mielnik** Kapitan Korda — czes. 6—7. Wspomnienia z przeszłości — NRD 8—9. Lala — włosk. 10—11.

**Milejczyce** Krajobraz po bitwie — pol. 6—7. Dziewczyna z diabelskiej przystani — węg. 8—9. Kasztany miłości — włosk. 10—11.

**Narew** Front wyzwolenia — pol. El Dorado — USA 7—11.

**Nurzec** Cyrk bez granic — rumuń. 6—7. Niewygodny kochanek — włosk. 8—9. Znaki na drodze — pol. 10—11.

**Rajsk** Liliowa akacja — węg. Ściana czarownic — pol. 7—11.

**Suchowola** Cafe pod „Minogą" — pol. Prywatny detektyw — angl. 7—11.

B.Z.Graf. zam. 2055 O-1



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 187

*

Вецер выдаіў імглу
З вымёнаў вербаў
Плёс ракі прачнуўся гаманлівы
Месяц папяровым сонным гербам
у нябёсах уміраў маўклівы

А далёка дзесь далёка
У небакраі
Хтось касцёр
Там распаліў праменны

Можа зоркі чэрці ўсе пакралі
І схавалі пад хмурыны венік
Крочыць дзень
І сонца небу трэба зараз
Як дзіцё блакітнымі рукамі
Панясці ў высь у даль абшарам
Над лугамі
Над палямі
Над лясамі.

**Алесь Барскі**



## БЯССОННІЦА

*Сюды ніхто не прыйдзе...*
*Прыйсці ніхто не можа.*
*Гэта толькі ўпартасць,*
*Што ў ва мне застыла.*
*Гэта толькі чаканне,*
*Зменанае ў крокі,*
*Гэта толькі бяссільнасць...*
*...Зноў вакно... Зноў дзверы...*
*Колькі іх, гэтых дзён,*
*дурных і пустых,*
*у клетцы пакою,*
*у заіржавелай браме...*
*у чатырох глухіх сценах,*
*бы на экранах,*
*шэры фільм уяўленняў,*
*начных і бяссонных.*
*У ім убачыў, каб верыць мог,*
*што можна жыць,*
*аднаго, не ведаць чаму,*
*чалавека...*
*Яшчэ ішоў дзесь, а можа...*
*...Можа ўсё кружыўся?*
*Цень разрастаўся*
*на сцяне калекай.*
*Гэта толькі бяссільнасць,*
*узнагарода ці кара?*
*Гэта толькі чаканне,*
*наіўная вера.*
*Гультайнае сэрца,*
*рытм самаўдараў.*

**Кастусь Бандарук**



### ЖНІВО

*Помню, выходзілі з вёскаю*
*У поле сярпамі жаць жыта.*
*Не спорна кратацца палоскаю*
*Сагнутым людзям, потам злітым.*

*Змяркалася, пожняю зжатаю*
*Насілі снапы свае ў кучы.*
*Калечыла пожня шурпатая*
*Нам босыя ногі балюча.*

*Кароткаю ночу, да раніцы,*
*Нам нылі і рукі і плечы,*
*Мы падалі з ног, быццам п'яніцы,*
*Жніво было катаржным нечым.*

*А сёння палеткі ўраджайныя*
*Мы нават касою не косім.*
*Жнеяркамі жнем і камбайнамі,*
*Малоцім машынамі ўвосень.*

*Жыццё незвычайна мяняецца,*
*Ідуць нам насустрач машыны,*
*Палепшыць жыццё намагаецца*
*Працоўным штодзённа Айчына.*

**Віктар Швед**

### ЦІШЫНЯ

Цішыня, цішыня...
Непакой, непакой...
Да апошняга дня
Асталася такой.

Упівалася ў твар,
У маршчынах лягла.
Той жыццёвы ліхтар
Сцерагла, берагла.

Не баялася дня,
Цёмнай ночы-пары.
Была радасцю ў снах
І цяплом на твары.

Атуляла, як цень,
Кожны смутак-адчай.
І чакала на дзень,
Як чакаюць на май.

Цішыня, цішыня,
Задушэўны спакой.
Толькі ў марах і снах
Астанешся такой.

**Л. Танкевіч**



**Дароце**

*

*Ад цябе пачынаецца дзень...*
*Для цябе ажывае свет.*
*З сонцам ў прыгаршчах*
*ранак ідзе*
*і купаецца ў хараstве.*

*Дыяменты блішчаць на траве.*
*Чорны дрозд засвістаў на вярбе.*
*Лагодны ветрык павеяў,*
*уздыхнуў,*
*паляцеў да цябе.*

*Для цябе толькі*
*ранак прачнуўся.*
*Будзе цёплы, цудоўны дзень!*
*Ап'янелую шчасцем вясну*
*па ўзгорках вядзе чарадзей.*

*Дык прымай.*
*Гэта я шлю табе*
*гэты ранак ва ўсім харастве!..*
*Ад цябе пачынаецца дзень,*
*для цябе нараджаецца свет.*

**Алесь Свісёк**



## Далёкая дарога

Ноч
Увайшоў... (куды і што за чалавек?)
Чаго шукае ўпацемку?
Не знаю
І знаць ніколі я не буду
Чаго бяжыць ён
Неспакойны
Чаго ён хоча
Незнаёмы
Не знаўшы сіл сваіх
Здаецца
Разбіты аб скалістае гранітнае
Жыццё
У розыскі прыстані жыццяроднай
У далячынь
Замглёную
Пайшоў
У свет
Цывілізаваны
Ідуць
Хвіліны
Не затрымаеш іх
Спакойна яны
Урываюцца
У неспакойны наш быт
Праходзяць
Дзень
Ноч
І зноў світанне
(зямля ўперад ўсё бяжыць)
І шчасця спеў
І многа слёз
Урываецца
Спакойна
У неспакойнае
жыццё

**Юрка Харкевіч**

## Змярканне

*Вянучая ружа*
*сваю аслабленую галаву*
*да зямлі клоніць.*

*Бледныя пялёсткі*
*недзе сціхаючы парыў ветру*
*кладзе на воду.*

*Іх нясе ручай,*
*які ў далях паволі моўкне,*
*вольна замірае.*

*Манатоннасць звону*
*гасне ў сваёй бясколернасці*
*і задуменасці.*

*Каменная цішыня*
*насоўваецца і сціскае*
*....ружу?!*

*Ружа памірае.*

**Юрка Баена**



### СОН О ДОМОВІ

*Нібы всё так як у дома*
*сьпівают пі́ўнів*
*а як очі замлюшчу*
*то і стіэны входят в сон*
*і прызба*
*і дым з коміна*
*так віэдымамі шчэ пахнэ*

*нэ подасть мама пампушкув*
*нэ склеіт тато калёшув*
*а хочбы наелася пампушкув*
*насоўгалась в клеяных калошах*
*нэ усьпэю учуті сатысфакцыі*
*муой сон такі плохі*
*і быле двэры открыті*
*ужэ сквозняк затягае*
*што вуон тут*
*з мамою зробіў*
*з якеі драбіны тато ўпаў*
*што за дурэнь так*
*хату поставіў*
*жэчывістосьць*
*— як добрэ што ты е*
*і до тэбэ дойті*
*і до тэбэ доехаті*

**З. Сачко**



З ВІЗІТАМ — ГРОДЗЕНЦЫ

## Я ІДУ ДА ТЫХ ХАТ

Адыходзіла ноч,
праясняўся блакіт,
Затаіў недзе вецер
дыханне.
Падымаўся туман
з прыдарожных ракіт,
Усміхалася
новае ранне.
І блішчалі, як сталь,
за чаротам густым
Ледзь рухомыя
возера хвалі.
І зялёны альшэўнік,
маліны кусты
У люстэрка вады
пазіралі.
Я іду па траве,
што зраслася з лазой,
І гляджу
на льняныя разлівы.
Асыпае хмызняк мяне
дробнай расой,
Быццам маці
слязою шчаслівай.
А галінкі,
што лісцямі ліпнуць
к шчацэ,
Быццам вусны
дзяўчыны каханай,
Ад пяшчоты такой
сэрца б'ецца хутчэй
і шматлікія гояцца раны.
Я іду з непакрытай
сівой галавой,
Ціха клоняць лісцё свае
клёны.
А за Шчарай,
калышучы ранняя спакой,
Кос сталёвыя
чуюцца звоны.
Поўны радасці сіл
крочу я да тых хат,
Дзе хвалюецца
музыка звонаў,
Дзе мой сябра —
танкіст, учарашні салдат
Завіхаецца
з трактарам сёння.

**А. Кумейша**

(Працяг са стар. 1)




вочы выядалі, а кішкі ад голаду бурчалі. Дык гаспадыню па руках цалаваў, калі яна злітавалася нада мною і з нагоды нейкага свята падкінула ў маю торбачку кавалак сала або крыху масла. А пасля, калі я змужнеў і змог цягнуць пілу, дык дагаварыўся з адным аднавяскоўцам, Міхасём Страпчуком, старэйшым ад мяне год на восем, і пайшлі мы ў лес, у Нурэцкае надлясніцтва, на заробак. За дзень працы маглі мы, як добра прылажыліся, зарабіць адзін злоты і 20-30 грошай. Хапіла гэтага на кілаграм цукру і 2-3 булачкі...

Пры Савецкай уладзе я працаваў на будове ў Нурцы. Тады я быў брыгадзірам і ўзначальваў брыгаду, якая на стаханаўскім спаборніцтве давала 400 прац. нормы. Мелі нас узнагародзіць паездкай у Мінск на рэспубліканскую выстаўку дасягненняў народнай гаспадаркі, аднак успыхнула вайна, і ўсё прапала. А пасля вайны.., што ж, вядома, цяжка было, прыходзілася ўсяго нацярпецца...

— Многа часу ён дома не начаваў, — кажа жонка Люба. — Па хлявах, па клунях, у жыце, або ў агародзе хаваўся. Забяжыць у хату, як той злодзей, і зноў пайшоў. А што мы страху наеліся!.. Асабліва пасля таго, як у Клюковічах у чэрвені 1946 года забілі Юрку Бурыча, сакратара гміннага камітэта Польскай рабочай партыі...

— Бурыч, — інфармуе Данілюк, — жыў у Тымянцы. Ён першы ўступіў у члены ППР. Яшчэ ў сакавіку 1945 г. Пасля яго падаў заяўку ў партыю Еўдакім Батлейка, а трэці — я. Пасля смерці Бурыча выбралі мяне ў маёй Тымянцы сакратаром партыйнай ячэйкі. А банды кругом тут бушавалі, асабліва крывавымі слядамі значыў свой шлях праслаўлены „Млот". Мы рашылі даць ім адпор. Паехалі ў Бельск, прывезлі зброю і заснавалі ў сябе атрад добраахвотнага рэзерва грамадзянскай міліцыі, значыць ОРМО.

— Дык як вам цяпер жывецца? — запытаў я.

— Зусім нядрэнна. Спулдзельня наша адсвяткавала ўжо 20-годдзе існавання. Маем 180 гектараў ворнай зямлі, трымаем 150 кароў, 76 свіней, гадуем 10.400 куранят. Нашы члены маюць вышэйшы гадавы даход, чым аднаасобнікі, дык чаго наракаць? Адно бяда, што пагода такая. Сена ўсё яшчэ не змаглі мы сабраць...

**Віктар Рудчык**

## Сакольская „квактуха"

(Працяг са стар. 1)



*Пнеўматычная рамка.*

Механічная квактуха, як тут жартаўліва называюць інкубатар, забяспечвае куранятамі Беластоцкае ваяводства поўнасцю і часткова — Варшаўскае. Яйкі для інкубатара скупляюць у асноўным у Сакольскім і Дуброўскім паветах. Інкубатарскі пункт у Саколцы не толькі перавыконвае свае прадукцыйныя планы, але і вядзе паслуговую дзейнасць для Седльцаў. Пастаўляюць яны яйкі і тут атрымліваюць куранят.

І калі паглядзіш на вялікую колькасць яек (у I квартале 1,5 мільёна штук), з якімі ж трэба „абыходзіцца, як з яйкам", аж дзіў бярэ, што тут працуе ўсяго 26 чалавек. Дапамагае тэхніка. Напрыклад, адна працаўніца на працягу гадзіны можа перанесці з аднаго месца ў другое 16-20 тысяч яек пры дапамозе так званай пнеўматычнай рамкі.

Тэкст і фота **А. Карпюка**

# Беларуская матэрыяльная культура ў Кракаве

Старажытны Кракаў у гісторыі беларуска-польскіх сувязяў адыграў немалую ролю. У гэтай старадаўняй сталіцы Польшчы, на яе вузенькіх пакручастых вулачках і цяністых панадворках колішніх камянічак застыла рэха звонкага цокату капыт урачыстай світы князёў літоўскіх і беларускіх, што 12 лютага 1386 года прыбылі сюды разам з вялікім князем літоўскім Ягайлам, энергічных крокаў беларускага першадрукара Францішка Скарыны, калі ў 1504-1506 гадах спяшаў з жакаўскай бурсы на заняткі ва універсітэт, памяркоўнага ходу Францішка Багушэвіча, які ў 1891 годзе рабіў захады аб выданні тут першага зборніка сваіх вершаў „Дудка беларуская", і прыемны ўспамін пра Выстаўку народнага мастацтва пражываючых у Польшчы нацыянальных меншасцей, якую арганізаваў у 1960 годзе кракаўскі Этнаграфічны музей, дзе беларуская экспазіцыя была самай багатай і самай красачнай.

Аб багатых калекцыях беларускай матэрыяльнай культуры ў Этнаграфічным музеі ў Кракаве якраз і хочацца мне сёння сказаць некалькі слоў. Са шчырай сардэчнасцю прывіталі мяне ў яго сівых мурах на плошчы Вольніца дырэктар **Э. Валігура,** захавальніца славянскай матэрыяльнай культуры **Г. Бітнер-Шэўчыкава** і спецыяліст па гісторыі збораў **А. Яхэр-Тышкова.** Гартаючы даўнія акты, заглядаючы ў багатыя архівы і фонды музея мы разам сцвярджаем, што першыя экспанаты з беларускіх зямель трапілі ў тагачасны Нацыянальны музей у Кракаве ўжо ў канцы XIX і пачатку XX стагоддзяў, затым імі няспынна папаўняліся зборы ў арганізаваным у 1911 годзе С. Удзелем сённяшнім Этнаграфічным музеі. Сістэматычнае збіранне экспанатаў беларускай народнай матэрыяльнай культуры, іх камплектаванне, апрацоўку і высылку ў Кракаў пачаў Вандалін Шукевіч — аўтар шэрагу артыкулаў па беларускай этнаграфіі, якія паяўляліся ад пачатку XX стагоддзя ў польскім друку (Wierzenia i praktyki ludowe... zebrane w gub. Wileńskiej. „Wisła" 1903 Niektóre wierzenia, przesądy i zabobony ludu... „Kwartalnik Litewski" 1910, Dawne środki lecznicze, „Kwartalnik Litewski" 1911, Szkice z Białejrusi, „Ziemia" 1913 і іншых). Гэта ён у 1912 г. прысылае з вёскі Нача Лідскага павету збор 24 штук жаночых паяскоў, затым у 1913 г. перадае 61 экземпляр убораў і прадметаў штодзённага ўжытку з Лідскага павету. Ад яго ж таксама трапілі ў Кракаў драўляныя вілы, мадэль калыскі, стаяк на лучыну і прасніца з вёскі Агароднікі Віленскай губерні, а такса-



*Будынак Этнаграфічнага музея ў Кракаве.*

ма лапці, торбачка з бяросты, мадэль сахі, чарпак на ваду, шуфлі для збожжа, драўляны ліхтар, драўляная ступка, пранік, дуда пастушка, гліняныя люлькі, прылады да апрацоўкі валакна, жаночыя чапцы, рыбацкія восці і іншыя прадметы з ваколіц Ліды.

Вядомы польскі этнограф К. Машынскі ахвяроўвае музею ручныя красёнцы, пранік, гліняныя міскі, цапы і кошыкі з ваколіц Пінска, Давідгарадка і Мозыра. Ц. Снягоцкая прысылае паяскі з ваколіц Кобрына, драўляныя хадакі з вёскі Семяноўка Гайнаўскага павету, спадніцу з вёскі Аскаболь Ваўкавыскага павету. М. Свянціцкая — спадніцу, фартушок, пацеркі і іншыя прадметы з ваколіц Мінска, Я. Трускаляская — паяскі з вёскі Бабоўня каля Нясвіжа, Я. Арапковіч — форму для адлівання свечак з ваколіц Ліды.

Трапляюць у музей жабкі да хадзьбы па лёдзе з ваколіц возера Нарач, гаршкі і цапы з Дзісны, верацёны з Палесся, спарышы і міска з Браслаўшчыны, свісцёлка з Навагрудка, ахвярныя фартушкі з крыжоў з павету Рагачоў Магілёўскай губерні, узоры розных суконных тканінаў, ручнікоў і вышыўкі з арнаментам з Віцебскай губерні, велікодныя яйкі з ваколіц Нясвіжа і вялікая колькасць іншых прадметаў матэрыяльнай культуры з самых розных куткоў Беларусі.

Захавальніца музея Г. Бітнер-Шэўчыкава лічыць, што колькасць прадметаў беларускай матэрыяльнай культуры ў фондах музея перавышае 1500 экземпляраў. Асабліва многа іх сабрана ў часе падрыхтоўкі да Выстаўкі народнага мастацтва пражываючых у Польшчы нацыянальных меншасцей у 1960 г. Яна ўзбагачаецца і цяпер, у часе збіральніцкіх экспедыцый кракаўскіх этнографаў па Беласточчыне.

Кракаўскі Этнаграфічны музей свае багатыя беларускія зборы раней экспанаваў на пастаянных выстаўках. Затым у 1959 г. з нагоды Дэкады беларускай культуры ў Польшчы наладзіў спецыяльную выстаўку „Беларуская народная культура". У 1960 годзе яны былі паказаны на спамянутай ужо Выстаўцы народнага мастацтва пражываючых у Польшчы нацыянальных меншасцей, калі выйшаў таксама спецыяльны інфарматар, у якім многа месца адведзена аналізу матэрыяльнай культуры беларусаў, пражываючых у Польшчы. У 1968 годзе музей разам з мясцовым гуртком Таварыства польска-савецкай дружбы арганізавалі выстаўку беларускага народнага мастацтва ў Новай Гуце, а потым частку яе экспанавалі ў Рацібожы. Ганчарныя вырабы і тканіны з усходняй Беласточчыны і ў сучасны момант экспануюцца на пастаянных выстаўках музея.

Словам, у старажытным Кракаве і сёння жывуць і развіваюцца традыцыі па збіранню і захаванню беларускай матэрыяльнай культуры.

**Мікалай Гайдук**

НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

## Футбольная каманда з Орлі

Маладыя футбалісты з Орлі Бельскага павету ў гэтым годзе ўдзельнічалі ў розыгрышы з камандамі з Парцава, Міклашоў і Кашалёў. Вынікі ўсё лепшыя, хаця сапернікі аказаліся мацнейшымі. Не варта падаць духам, бо і пройгрышы былі невысокія. Вось з Орляй усяго з лікам 2:1.

У складзе футбольнай каманды з Орлі выступаюць: Міхась Адзяевіч (варатар), Міхась Федаровіч, Аляксандр Кубаеўскі, Уладзімір Фіёнік, Аляксандр Валадкевіч, Сцяпан Рыбачук, Аляксандр Куна, Юрка Паплаўскі, Ян Фурса, Аляксей Рыбачук і Мікалай Рынгайла.

Тэкст і фота **Я. Ц.**



Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

## Нашаніўская пара

### МАКСІМ БАГДАНОВІЧ — ЧАСТКА XI

**Грамадская лірыка.** Грамадская лірыка арганічна звязана ў творчасці Багдановіча з лірыкай патрыятычнай. Нацыянальны лёс Беларусі быў для Багдановіча справай неаддзельнай ад лёсу грамадскага. Многія яго вершы ў аднолькавай ступені адносяцца да нацыянальнай і грамадскай лірыкі.

Да найбольш характэрных грамадскіх вершаў Багдановіча залічаем „Краю мой родны! Як выкляты богам", „Рушымся, браццця, хутчэй", „Мае песні", „З песняў беларускага мужыка", „Над магілай мужыка", „Пан і мужык", „Народ, Беларускі Народ". І гэта амаль усё. Калі прыняць пад увагу ўсю паэтычную спадчыну Багдановіча, дык трэба сказаць, што грамадскія вершы займаюць у ёй даволі нязначную пазіцыю. Чаму? Мы ўжо не раз гаварылі, што Багдановіч па сутнасці ўсё жыццё правёў па-за межамі роднага краю. Па гэтай прычыне не быў непасрэдным назіральнікам, а тым больш удзельнікам сялянскай нядолі. Не ведаючы дакладна рэальнасцей сялянскага побыту і вясковай бяды, не быў у стане адлюстраваць іх шырока ў сваёй творчасці. Таму, мабыць, грамадскі матыў займае ў яго паэзіі другарадны план. Ілюструючы сялянскае жыццё ў названых ужо вершах, Багдановіч знаходзіўся, несумненна, пад уражаннем грамадскай лірыкі Купалы і Коласа. Творчасць гэтых паэтаў была для Багдановіча адной з галоўных крыніц ведаў аб сялянскім жыцці. І таму нічога дзіўнага, што пішучы аб беларускай вёсцы, Багдановіч не мог не карыстацца з паэтычных узораў Коласа і Купалы. Са сказанага не вынікае, што грамадская лірыка Багдановіча — гэта лірыка наследаванняў і паўтораў. Багдановіч умеў знайсці новыя формы і новыя словы для старых спраў і старых праблем.

Спецыфічны верш „Мае песні" складаецца з дзвюх частак. Першая частка — гэта класічны прыклад асабістай элегіі, а другая — гэта грамадская элегія:

А як родную згадаю старану,
Як згадаю яе беднасць і нуду, —
Сэрца сціснецца, і я пяяць пачну, —
Мо душу хоць крыху гэтым адвяду.
Грозна песня разліваецца, грыміць,
Долю горкую, мужыцкую кляне,
Бо нявідзімы ланцуг на ім вісіць,
Бо ім цяжка жыць у роднай старане.

Верш гэты акрэслівае тыя прычыны, якія дэтэрмінавалі паэзію Багдановіча. Прынамсі гэтымі былі гора і нядоля беларускага селяніна. Паэт выразна ставіць у залежнасць характар сваёй паэзіі (песні) ад характару народнага жыцця. Для Багдановіча жыццё беларускага народа — гэта жыццё, скаванае „нявідзімым ланцугом", гэта жыццё без свабоды, жыццё без матэрыяльнага дастатку. Галоўная думка верша простая: паэт не можа быць шчаслівы, калі няшчасны народ, паэт не можа быць вясёлы, калі сумны народ. Гэтае атоесамліванне лёсу народа з лёсам паэта бадай што найбольш істотная ідэя твора. Варта падкрэсліць, што верш „Мае песні" — гэта твор тыпова багдановічаўскі. Арыгінальны. Нельга тут гаварыць аб якіх-колечы ўплывах ці залежнасці ад іншых паэтаў.

У вершах Багдановіча „Краю мой родны! Як выкляты богам" і „З песняў беларускага мужыка" як бы паўтараюцца матывы і прыёмы, выступаючыя ў ранняй паэзіі Купалы і Коласа. Гэтае падабенства відаць у татальным асуджэнні ўмоў сялянскага побыту, у пэўнай дэманізацыі і фаталізацыі сялянскага гора, у праявах бязвер'я і бязвыхаднасці з сялянскага тупіка. Можам гаварыць тут таксама аб пэўнай аналогіі паміж Багдановічам і Багушэвічам. Праяўляецца яна ў тым, што Багдановіч у вершы „З песняў беларускага мужыка" як бы ў след за Багушэвічам паўтарае думку аб тым, што селянін — стваральнік усіх вартасцей не мае магчымасці карыстацца вынікамі сваёй працы.

 

ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

## Яніна Сабалеўская

Яніна Сабалеўская супольна з мужам Казімірам вядуць 12-гектаравую гаспадарку ў вёсцы Азярок Сакольскага павету. На іх зямельных угоддзях найлепш удаюцца жыта і авёс. Добра расце таксама бульба — асабліва „Флісак“.

У мінулым годзе Яніна і Казімір Сабалеўскія прадалі дзяржаве 2000 кілаграмаў жыта і аўса, а таксама больш чатырох тон бульбы. Гадуюць яны ў сярэднім каля 20 свіней і чатыры каровы. Калі будзе ў цэлай ваколіцы ліквідавана цераспалосіца, тады павялічаць яны перш за ўсё колькасць рагатай жывёлы. З гэтым намерам пачалі яны сіласаваць больш зялёнай пашы.

Прыемна пабываць на панадворку і ў хаце Сабалеўскіх. У агародзе ўрадзіла ўсялякая агародніна, а таксама красуюцца стракатыя кветкі. У сярэдзіне дом прыгожа памаляваны, ёсць новая мэбля, тэлевізар.

Казімір Сабалеўскі карыстаецца сярод аднавяскоўцаў вялікім аўтарытэтам. Яны выбралі яго солтысам.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**



## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

*ЖНІЎНАЯ*

125




*Была ў батька дочка, была ў батька дочка,*
*Дочка іедына.*
*І тая ў бор пуошла, і тая ў бор пуошла,*
*А ў бор по ягуодкі, а ў ліес по горыэш(кі).*
*Зудосілі еі, зудосілі еі*
*Трое діевосну(буов)*.*
*Трое діевоснубуов, трое діевоснубуов,*
*А все добры лю(дэ).*
*Пытаюца еі, пытаюца еі:*
*— Чы рада ты людём, нам тром діевосну(буом)?*
*— Ой, нэ так я рада, ой, нэ так рада,*
*Як рад мой батэнь(ко).*
*— Ой, діево-діевулю, дэ скажэш нам сіес(ті)?*
*Дэ скажэш нам сіесті, дэ скажэш нам сіесті,*
*Што нам дасі іест(і)?*
*— Ой, скажу я вам сіесті, скажу я вам сіесті,*
*В бору на піенёч(ку),*
*В бору на піенёчку, в бору на піенёчку,*
*В ліесі на ярыэ**.*
*Ой, дам я вам іесті, ой, дам я вам іесті —*
*А з бору ягуодок, а з ліеса орыэш(куов).*
*Нэма кому даті, нэма кому даті*
*Батэнькові зна(ті) —*
*Ніехай нэ надіца, ніехай нэ надіца*
*З бору ягуодкамі, з ліеса арыэшка(мі).*
*Но ніехай надіца, но ніехай надіца*
*О пуолтора ро(ку).*
*О пуолтора року, о пуолтора року*
*З молодэнькім зіецём.*
*З молодэнькім зіецём, з маленькім дітіецём.*

Ад Анны Крупіч, 1912 г. нараджэння, вёска Дабрывада Гайнаўскага павету, запісаў 27 лютага 1974 г. Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Эдуард Гойлік.

* „Діевоснуобы“ — інакш: сваты.

** Слова невыразнае.




## АКВАРЫУМ

Развіваецца сёння, даражэнькія, будаўніцтва — глядзець люба. Растуць адзін за другім дамы і вялікія, і меншыя крыху, і тыя зусім маленькія. Прынялося, ведаеце, у народзе, што некаторыя з іх — якраз найбольш шыкарныя — акварыумамі называць. Бо ў іх, як кажуць, заўсёды найбольшыя рыбы водзяцца — дырэктары там усялякія, магістры і іншае начальства.

І вось, пабачце, не схацеў і Гарадок быць горшым. Даўжэйшы ўжо час і ён не абы-які, на ўсю ваколіцу вядомы, акварыум мае. Праўда, не тыповы крыху, бо да людскога выгляду яму вельмі далёка — аднак свой, мясцовы, гарадоцкі. Калі б самому бачыць не давялося, ні за што б не паверыў. А было яно так...

Спатыкаю я калісьці на вуліцы знаёмага свайго, Олька — паляўнічага заўзятага. У адной руцэ вудачкі, банка чарвякоў у другой — топае дахаты.

— Што гэта ты, рыбалкаю заняўся? — пытаю. — Стрэльбу на кусок палкі з лёскай замяніў? І дзе ж ты тут, урэшце, вудзіць будзеш? Бо ў рэчцы Супрасль, што Гарадок праціна, пасля меліярацыі вады заледзьве што па шыю будзе — ды і то тады, калі чалавек на галаве стане.

— Як то дзе? — ён на тое. — Вось хадзі разам. Фільм у тэлебачанні паглянем і пры аказіі карасёў на вячэру наловім, — яны ў смятане, ведаеш, закуска якая.

І валачэ мяне за руку ў сваю кватэру. Па дарозе толькі ў аднаго гаспадара боты гумовыя на маю долю прыхапілі.

— Бачыш, — тлумачыць мне Олек. — Наш блёк, ну той, што пры гміне, было не было, а ўжо 18 год не атынкаваны стаіць, ну і без ніякага рамонту, вядома. Рамонтна-будаўнічае прадпрыемства камунальнай гаспадаркі № 2 у Беластоку, праўда, абяцала зрабіць рамонт і направіць усе непаладкі да студзеня 1974 года. Толку ад іх, аднак, што кот наплакаў. Двух работнікаў прышлюць, і што ты з іх возьмеш? Толькі што дзеці на бутэльках прызаробяць, ды і я коркаў на паплаўкі заўсёды назбіраю.

А пры кожным дажджы вада ў кватэры цераз столь і цераз вокны льецца ды льецца. Жывем, як у сажалцы. Усе мы ўжо настолькі з мокрымі ўмовамі звыкліся, што рана ўстаеш часамі і пачынаеш прыглядацца, ці ў цябе яшчэ перапонкі паміж пальцамі, альбо плаўнікі не выраслі.

Спачатку клялі вінаватых, скаргі пісалі, а пасля рушылі мазгамі, як тут найлепей выкарыстаць гэту сітуацыю.

Я вось, бачыш, на той прыклад, карасёў напусціў у спальню. Хацеў яшчэ і ў кухню, у ёй аднак жонка качак загадавала. У калідоры адзін кут на ванну адгарадзілі, бо там дзе вада быць павінна, у кранах значыцца, яе, як на злосць, амаль ніколі не бывае.

Сусед жа, што з боку, ракаў разводзіць. Толькі тыя, ведаеш, больш па норах. Пад ложкам — рукамі шнырыць даводзіцца, пад шафай — намучышся, пакуль наловіш. А я сабе сядаю ў гамак, які ад сценкі да сценкі развесіў, вудачку закідаю, а пры аказіі і тэлевізійную праграму аглядаю. Вобраз, што праўда, не вельмі выразны, дрыжыць, бо тэлевізар у мяне ўладкаваны на складанай лодцы — пантоне і на хвалях яго гойдае крыху — усё ж аднак весялей.

Ну, бо частка жыхароў нашага блёку наогул разбагацець вырашыла. Вычыталі, што французы ахвотна жабаў на харчы купляюць і вельмі добра плоцяць. Ужо, кажуць, вядуцца перагаворы пра стварэнне гарадоцкага кааператыву „Ква-ква-экспарт-жаба“ на вуліцы Міхалоўскай № 3, у нашым доме, значыцца.

Так што, сам бачыш, колькі здаровай, грамадскай ініцыятывы. І ўсё гэта, дзякуючы далёкаўзрочным рамонтнікам. Няма што, трэба будзе іх хоць на рыбку калі запрасіць, а то чаго добрага, падурэюць яшчэ людзі са скукі, столькі часу нічога не робячы.

**Ларс**




## „Навуковы зборнік“

Кожнае новае выданне, што закранае праблематыку Беласточчыны, чытаецца, вядома, з асаблівым зацікаўленнем і нават хваляваннем. З такімі ж пачуццямі браў я ў рукі скромненькі з выгляду і невялікі па аб'ёму „Навуковы зборнік“[1]), які некалькі тыдняў таму назад выпусціла Беларускае грамадска-культурнае таварыства супольна з Беластоцкім навуковым таварыствам. У тым, што не вонкавая красачнасць і таўшчыня кнігі сведчаць аб яе вартасці, заўсёды пераконваемся толькі тады, калі пачынаем глыбей знаёміцца са зместам выдання. І неабходна прызнаць, што гэтае знаёмства выпала на карысць „Навуковага зборніка“.

У артыкуле М. Кандрацюка „Некаторыя асаблівасці тапаніміі ўсходняй Беласточчыны“ даецца аналіз назваў выбраных мясцовасцей ўсходняй Беласточчыны, пераважна тых яе паветаў, дзе пражывае беларускае насельніцтва. Аўтар займаецца мясцовасцямі з дзвюма назвамі, зменамі назваў некаторых мясцовасцей у гістарычным развіцці і назвамі літоўскага і яцвяжскага паходжання на той тэрыторыі нашага ваяводства, якая цяпер з'яўляецца этнічна славянскай. Прыемна сцвердзіць, што беластоцкая тапанімія і анамастыка на навуковым варштаце М. Кандрацюка адкрывае нам займальны свет мінулага гэтай зямлі, самыя разнастайныя яго аспекты, хоць гэта толькі пачатак тых даследаванняў, якіх яна ўсё яшчэ чакае. Бо і трайная назва Эльяшукі-Ільяшукі-Ляшукі (ад „Эльяша“, „Ільі“ ці „Ляха“) у Гайнаўскім павеце, і двайная Агароднікі-Гароднікі (ад „агарода“ ці „горада“) ў Сямяціцкім павеце і, урэшце, размежаванне літоўскага паходжання некаторых назваў ад яцвяжскага (напрыклад, „Дайнова“ выразна яцвяжскай першакрыніцы, бо адна з воласцей Яцвягіі называлася „Дэйнова“) і шэраг іншых вымагае яшчэ шмат карпатлівай даследчай працы.

А. Багроўская ў „Параўнальнай характарыстыцы гаворак дзвюх вёсак з Гайнаўшчыны (Сухавольцы-Семяноўка)“ праводзіць мовазнаўчы аналіз сучаснага стану гутаркавай мовы гэтых дзвюх мясцін на багатым фактычным матэрыяле і выказвае меркаванні адносна іх моўнай прыналежнасці. Але якраз гэтае апошняе выклікае найбольшыя сумненні, бо ў выпадку Гайнаўшчыны можна разважаць не аб паўночна-ўкраінскіх, але аб паўночна-палескіх гаворках (глядзі: зборнік „Полесье“, Масква 1968 г.).

У „Нарысе развіцця школьніцтва на Беласточчыне ў перыяд 1773-1939 г.г.“ атрымоўваем вельмі каштоўны матэрыял па гісторыі асветы ўсходняй Беласточчыны. У артыкуле пададзены факты, што дагэтуль не былі ў навуковым звароце. Ён асабліва карысны для нашых настаўнікаў.

В. Белаказовіч у артыкуле „Беларускі селянін ва ўспрыняцці А. Герцэна і А. Міцкевіча“ высвятляе шэраг невядомых дагэтуль абставін, у якіх патрасаючая літаграфія Ю. Азямблоўскага „Славянскі нявольнік“ паслужыла двум вялікім змагарам за свабоду славянскіх народаў А. Міцкевічу і А. Герцэну ў развенчванні царскага самадзяржаўя.

З артыкула А. Аксамітава „Дасягненні і перспектывы беларускага мовазнаўства“ даведваемся аб даследчых працах, якія праводзяцца ў сучасны момант у навуковых установах Беларускай ССР. Як вядома, беларуская мовазнаўчая школа займае адно з вядучых месц у сучасным савецкім славяназнаўстве.

А. Мальдзіс у кароценькай публікацыі „Невядомыя беларускія творы XVIII стагоддзя“ змяшчае і каменціруе тры невядомыя дагэтуль беларускія песні з XVIII стагоддзя, якія ён адкрыў у 1971 г. у бібліятэцы Варшаўскага універсітэта. Для нас асаблівую цікавасць прадстаўляе першая з іх, якая, мяркуючы па яе моўных асаблівасцях, можа паходзіць з Падляшша.

У раздзеле „Рэцэнзіі і перагляды“ знаходзім артыкулы А. Аксамітава аб сёмым томе „Люду беларускага“ М. Федароўскага, Ю. Туронка аб кнізе С. Маўэрсберга „Пачатковае школьніцтва для нацыянальных меншасцей у Польшчы ў гадах 1918—1939“, У. Юзвюка аб публікацыі „Загінулі ў барацьбе за ўмацаванне народнай улады на Беласточчыне“ і „Інфарматары-праваднікy па Пакою народнай памяці ў Райску“, агляд і крытычныя заўвагі У. Паўлючука аб беларускіх матэрыялах, змешчаных у „Сшытках Дзяржаўнага этнаграфічнага музея ў Варшаве“, а таксама артыкул А. Баршчэўскага аб кнізе М. Я. Грынблата „Белорусы“. Калі да ўсіх іншых рэцэнзій не можна мець якіх-колечы істотных заўваг, дык з прыдзірлівымі і неабгрунтаванымі нападкамі А. Баршчэўскага на славутага і заслужанага старэйшага беларусазнаўцу М. Я. Грынблата нельга згадзіцца.

У зборніку знаходзім таксама дзве пазіцыі: „Даведнік фальклорных тэкстаў з Беласточчыны, апублікаваных у тыднёвіку „Ніва“ (1956-1970) і ў „Беларускіх календарах“ (1961-1971), які падрыхтаваў Ю. Туронак, і „Беларусы на Беласточчыне (Матэрыялы да бібліяграфіі за 1920-1970 г.г.)“, апрацаваныя У. Лявіцкай і М. Кандрацюком.

Трэба адзначыць, што недахопы ў невялікай толькі ступені змяншаюць вартасць публікацыі. Яна — надта каштоўная пазіцыя, і варта, каб апынулася ў руках як мага большага кола чытачоў.

**Ігнат Снарскі**

[1]) Навуковы зборнік, пад рэдакцыяй Міхала Кандрацюка, Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Польшчы, Беластоцкае навуковае таварыства, Беласток 1974, стар. 152, цана 20 злотых.



 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# Сэрдэчныя тайны

**Дарагое „Сэрцайка“!**

Мне 17 год. Вучуся ў ліцэі. Аднойчы я была на вёсцы, дзе жыве мая сястра. Там на забаве я пазнаёмілася з Віцем. Ён прыгожы і культурны хлопец. Працуе ў горадзе Г. Цэлы вечар мы правялі разам. Пасля таго мы яшчэ два разы сустракаліся. Пакахала я яго з першага разу. У пачатку канікулаў мы ізноў былі разам на забаве. Усё было добра, пакуль ён мне не сказаў, што яго хтосьці кліча, і выйшаў. Я асталася з сяброўкамі. Праз некалькі мінут ён увайшоў з іншай дзяўчынай. Мяне гэта моцна ўзрушыла. Я яго паклікала і спакойна сказала: „Або гуляеш са мной або з гэтай дзяўчынай“. Адказаў, што са мною, і перапрасіў мяне. Да канца забавы мы ізноў гулялі разам. Я была вельмі задаволена. Пасля гэтай забавы мелі мы сустрэцца. Але Віця не прыйшоў. Мінула некалькі дзён, і мы ізноў спаткаліся на забаве ў гэтай самай вёсцы. Ён да мяне не адазваўся. Быў з той дзяўчынай. Мне было вельмі крыўдна. Чаму не адазваўся да мяне, я ж яму нічога кепскага не сказала? Я яго кахаю і ўвесь час аб ім думаю. „Сэрцайка“, што рабіць? Як вярнуць Віцю?

**Лена**

**Лена!** Культурны хлопец умее культурна з дзяўчынай расстацца. Віця паступіў брыдка і прымітыўна! „Ваяваць“ за яго няма сэнсу. Пастарайся як найхутчэй аб ім забыць, хоць гэта і нялёгка табе будзе. Не накідайся сабою, трымайся ганарова і памятай: клін клінам вышыбаюць.

**„Сэрцайка“**

# Куток практычных ведаў




## ДЖЭМ З АГРЭСТУ

На 1 кг агрэсту бярэм адну шклянку вады і 65 дэкаў цукру.

Не зусім спелы агрэст памыць, ачысціць ад хвосцікаў і рэштак цвету. Цукар заліць вадою, закіпяціць, зняць пену. Частку агрэсту патаўчы. У гарачы сіроп палажыць цэлы агрэст і стоўчаны, варыць яго 20-25 мінут, час ад часу памешваючы.

Джэм з агрэсту, зрэшты, як і іншыя джэмы, найлепш рабіць аднаразова не ў большай колькасці, чым 1—1,5 кг ягад; варыць трэба ў плоскай шырокай каструлі з тоўстым дном, яна павінна быць эмаліраваная, непаабіваная. У такім посудзе вада з джэму хутка выпароўваецца.

Гатовы джэм зламыць адразу ў памытыя, выпараныя, гарачыя слоікі, накрыць цэлафанам і завязаць слоікі.

## ПАВІДЛА З АГРЭСТУ

Спелы і памыты агрэст разварыць у каструльцы пад крышкай у малой колькасці вады. Гарачы мяккі агрэст адразу ж працерці праз нейлонавае сітца. Перацёр зважыць (або памерыць у літрах), уліць у плоскі посуд, варыць, каб выпарылася вада. Калі маса стане густою, дадаць цукар (на 1 літр 15-25 дэкаў цукру) і яшчэ разам крыху паварыць. Зламыць павідла ў гарачыя слоікі, накрыць цэлафанам і абвязаць.

Павідла з агрэсту вельмі смакуе з булкаю і хлебам, але можна з ім рабіць таксама пірагі.

## ДЖЭМ З ЧАРЭШНЯЎ

На 1 кг памытых чарэшняў без костачак трэба ўзяць 1 шклянку соку, або перацёру парэчак ці агрэсту і 65 дэкаў цукру.

Цукар закіпяціць з сокам парэчак ці агрэсту, зняць пену. У гарачы сіроп палажыць чарэшні, з якіх вынялі ўжо костачкі. Варыць каля паўгадзіны.

Гарачы джэм зламыць у слоікі, накрыць цэлафанам і абвязаць.

**Гаспадыня**



*Хоць лета сёлета дажджлівае, жыта вырасла не благое...*

*Фота Я. Цялушэцкага.*

# Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Муж у часе вайны апынуўся за граніцай і вярнуўся толькі ў 1952 г. Жонка пасля вайны ў 1950 годзе купіла пляц і пабудавала дом. Муж памёр у 1972 годзе, і паміж дачкою і маткай, якія з'яўляюцца наследнікамі, узнік спор адносна дома. Ці з'яўляецца ён уласнасцю маткі, ці быў супольнай уласнасцю мужа і жонкі?

АДКАЗ: Паводле сямейнага права, маёмасць, набытая мужам або жонкай у часе ад шлюбу да смерці, або разводу, з'яўляецца супольнай іх уласнасцю, незалежна ад таго, ці жывуць яны разам, ці не. Таму дом, пабудаваны жонкай у часе прабывання мужа за граніцай, з'яўляецца супольнай уласнасцю мужа і жонкі і пасля смерці мужа яго частка пераходзіць на ўсіх яго наследнікаў. А наследнікамі яго ў гэтым выпадку з'яўляюцца жонка і дачка, калі не было завяшчання, якое вырашыла справу спадчыны інакш, і калі не было іншых дзяцей або ўнукаў, маючых права на спадчыну.

Праўда, паводле закону, жонка магла дамагацца, каб суд узяў пад увагу тое, што ў набыцці маёмасці муж удзелу не прымаў, але гэта магчымасць існавала толькі да смерці мужа, а пасля смерці ў тым толькі выпадку, калі б пры жыцці мужа жонка падала на развод.

# За народную ўладу

## НАРВА, ГОД 1944

Мы пазнаёміліся з імі тыдзень таму назад. **Канстанцін Міхалюк, Язэп Пляскові і Ян Якубоўскі** — усе з Нарвы. Усе былі сведкамі і ўдзельнікамі барацьбы за народную ўладу ў сваёй роднай мясцовасці. Міхалюк працаваў у гміне, Пляскові быў міліцыянерам, а Якубоўскі арганізаваў „Сялянскую самапомач“.

— Год 1944, — сцвярджае Язэп Пляскові, — прайшоў у нас адносна спакойна.

— Так, — пацвердзіў Канстанцін Міхалюк, — банды пачалі сваю дзейнасць у 1945 годзе, я тады быў сакратаром гміннага ўпраўлення. Яшчэ не існавалі тады Гайнаўскі і Сямяціцкі паветы. Павятовая ўлада знаходзілася ў Бельску. Работы было шмат. Трэба было забяспечыць армію і гарады харчамі. А вёскі былі разбураны, папалены, людзям жылося і холадна, і голадна. Мы самі доўгі час не атрымоўвалі ніякай зарплаты за сваю працу.

—Памятаю сваю першую зарплату, — адазваўся Язэп Пляскові. — Атрымаў я тады 500 зл.

— А першая спулдзельчая крама ў Нарве была адкрыта, здаецца, у пачатку 1945 года, — успомніў Ян Якубоўскі. — Найперш аднак узнікла ў нас ячэйка Польскай рабочай партыі. Яшчэ пад канец 1944 года прыехаў з Бельска камендант павятовай камендатуры грамадзянскай міліцыі, здаецца, Камінскі, і пачаў выпытваць пра даўнейшых членаў КПЗБ і пра савецкіх актывістаў. А я быў савецкім міліцыянерам. Дык ахвотна падаў заяву ў партыю. І мой старэйшы брат Аляксандр, якога замучылі бандыты, таксама запісаўся, а яшчэ падаў заяўку Мікалай Галіцкі з Пухлоў, якога пасля таксама забілі бандыты.

— І не толькі яго аднаго забілі, але выстралялі яго цэлую сям'ю, — дадаў Язэп Пляскові. — Я сам бачыў на ўласныя вочы. Жыў ён у вёсцы Пухлы. Выбралі яго першым сакратаром гміннай арганізацыі ППР у Нарве. Дык за тое яго банда... Калі ўварваліся яны ў хату Галіцкіх, маці прала кудзелю, бацька падкладаў дровы ў печку, малодшы брат ужо ляжаў на ложку, а сам ён — Мікалай — паспеў схавацца ў каморку. Пастралялі іх усіх на месцы, там, дзе засталі. Думалі, што запалохаюць іншых актывістаў. Аднак пралічыліся.

Партыйнымі былі яшчэ **Андрэй Сяргеюк** з Трасцянкі, **Аляксандр Марчук** з Цялушак, **Васіль Ціханюк** і **Нікановіч** з Нарвы, **Андрэй Чэрнякевіч** з Макаўкі. Партыя пастаянна павялічвала свае рады.

— Партыйны білет, — заявіў Ян Якубоўскі ,— атрымаў я 10 студзеня 1945 года. А яшчэ раней, Сяргеюк, Марчук, Нікановіч і Ціханюк прымалі ўдзел у I ваяводскім з'ездзе Польскай рабочай партыі.

— Вы абяцалі расказаць пра арганізацыю спулдзельчай крамы, — — звярнуўся я да Яна Якубоўскага.

— Што ж, крама была неабходнай. Людзі не мелі дзе купіць нават і солі. А тут пачалі арганізоўваць „Сялянскую самапомач“. Я меў за сабой крыху адукацыі. Дык атрымаў ад таварышаў партыйны загад: заснаваць у Нарве спулдзельчую краму. Ніхто аднак не меў грошай. Складаліся мы, хто чым быў багаты. Хто капу яек, хто цэнтнер збожжа, хто яшчэ штонебудзь.



*Ян Якубоўскі.*

— Я яшчэ да гэтага часу, — заявіў Пляскові, — перахоўваю тую квітанцыю, што ты мне ў 1945 годзе выпісаў на пуд жыта, які аддаў я як свой членскі ўзнос у „Сялянскую самапомач“.

— Усе гэтыя прадукты сабралі мы разам, — гаварыў Якубоўскі, — завезлі на кірмаш і прадалі. Такім чынам утаргавалі мы некалькі тысяч злотых на старыя грошы і ад гэтага пачалі свой гандаль у Нарве. Першы агульны сход членаў нашай гміннай спулдзельні „Сялянская самапомач“ адбыўся ў снежні 1944 г. Выбралі мы праўленне, у саставе якога апрача мяне былі яшчэ **Андрэй Чэрнякевіч** і **Лукша**, які адначасова быў прадаўцом. За таварамі ездзілі мы аж у Бельск канём. Першы самаход з „Унры“ атрымалі ж мы толькі ў 1946 годзе...

— Нашу краму банды тады яшчэ не кранал, — сказаў Ян Якубоўскі. — Але 22 чэрвеня 1945 года яе зусім разбілі.

— Тады і мне давялося наесціся страху, — адазваўся Канстанцін Міхалюк. — Бандыты завіталі да мяне. У маёй хаце, на кухні, у сцяне за шафай была зроблена спецыяльная схованка. Дык я туды. А яны па хаце ходзяць, пра мяне пытаюць, жонку б'юць... А мяне нейкі пракляты кашаль пачаў мучыць. Ледзь вытрымаў. На дадатак гэтыя бандыты загадалі жонцы смажыць яешню і распачалі п'янку. А я стаю за шафай, варухнуцца баюся, ногі млеюць...

— Яны тады, — сказаў Язэп Пляскові, — калі вярталіся з Нарвы, цык папалі ў засаду нашага войска, і мала хто з іх выратаваўся...

— Аднак з гэтага дня, — заявіў Міхалюк, — аж да верасня 1945 г. у Нарве стала бяспраўе. Гміна не дзейнічала, пастарунак быў разбіты...

— Пастарунак тады перанеслі мы ў вёску Клейнікі, — паясніў Язэп Пляскові. — З намі быў таксама вуйт Нікановіч. У верасні зноў вярнуліся мы ў Нарву.

— І краму таксама мы адбудавалі, — сказаў Ян Якубоўскі. — У мяне захавалася яшчэ 15 тысяч спулдзельчых грошай. І з гэтым капіталам мы зноў распачалі гандаль. Цяпер, для прыкладу, капітал Нараўскага ГС-у складае суму ў звыш 100 мільёнаў злотых.

Апавяданне ветэранаў змагання за народную ўладу ў Нарве пільна слухаў цяперашні начальнік Нараўскай гміны Віталіс Пякарскі. Дык да яго звярнуўся я з просьбай, каб расказаў, што цяпер чуваць у яго гміне.

— Перш за ўсё — гаварыў ён, — стараемся як мага найлепш выконваць гаспадарча-грамадскія заданні, якія ўказваюць нам партыя і ўрад. У гэтай галіне маем мы пэўныя поспехі. Жывёлагадоўля на працягу мінулага года ўзрасла ў нас амаль на 11 прац., ураджай прадбачваецца ў гэтым годзе не горшы ад рэкорднага мінулагодняга ўраджаю. Да жніва падрыхтаваліся мы дбайна. У гміне адных толькі касілак налічваецца звыш 800 штук.

Аб цяперашнім начальніку Нараўскай гміны гавораць, што ён добры арганізатар і патрабавальны чалавек. Значыць, эстафета пакаленняў перадала палачку ў добрыя рукі.

**Віктар Рудчык**

Фота аўтара



*Цяперашні начальнік Нараўскай гміны Віталіс Пякарскі.*

# ТРЫБУНА чытачоў




### ЛЕТА

Горача. Ідзём у цянёк, пад яблыню. Ураджайны гэты год. Маня казала, што 120 мяшкоў бульбы накапаюць. Трэба падушкі вынесці на плот, на сонца. Злежаліся.

Вось паршучок, кормнік, штосьці недаядае. Можа закалоці?

Што ты, здурэў? Гэта ж пасаг Ганусі! Ох, вяселле, вяселле! Госці будуць, горача будзе. Цялушку са зламаным рогам зарэжам...

Мужык Валі, ну, той лётчык, разбіўся на самалёце.І чаго цягнуцца да неба?

Прыйшоў канец на гэты свет. Да Бога хочуць дабрацца. Але Бог не дапусціць, пакарае, ой, пакарае цяжка...

Праўда, дзеці ў царкву не ходзяць, бацькоў не слухаюцца. Эдзіка на рэлігію трэба было зацягнуць. Ох, што за маладзёж... Як мы былі маладыя...

Холадна зрабілася. Сонца ўжо схавалася за Лізінай ліпай. Трэба ісці ўпраўляцца, каровы заганяць.

**Міра Лукша**

### ЛЕС РАНІЦАЙ

*Як ціха і свежа ў гэтым лесе,*
*Адчуваю я пахі ўсіх траў*
*І чую, што песня гучыць,*
*Як бы недзе нехта спяваў.*

*Туманы кладуцца на травы,*
*Бліскаюць кроплямі ў далі*
*І, быццам бы на муравах,*
*Усе кветкі да рана маўчалі.*

**Пётр Бахэнэк,**
Беларускі ліцэй ў Бельску

*

Вочы ў неба
ад плачу
запухлі
апошняя сляза
павісла
на расніцы
як быццам вагаючыся
ўпасці
ці не
імгла зрэнкі
апляла
павуціннем
павуціннем
асенняй
задумёнасці.

**Ніна Матысюк**
Гайнаўскі беларускі ліцэй

## Які корань, такое дрэва

Едучы аўтобусам ці поездам, усяго можна наглядзецца і ўсё пачуць. Як жа часта бывае, што малады чалавек, таксама вучань ці вучаніца, не ўступіць месца старэйшаму. О, не! Разваліцца сам, як цар. Бо ж ён лічыцца „вучоным". А якімі нецэнзурнымі словамі перакідаюцца, і ўсе ж гэта чуюць. А колькі ў вагонах на седзячых месцах узораў і надпісаў! Гэта работа „мастакоў" XX стагоддзя.

У пачатковых школах на перапынках некаторыя вучні ў голас ругаюцца і настаўнікі часта не звяртаюць на гэта ўвагі. Мо і дрэнна, што цяпер настаўнікам у школе забаронена біць вучня. Старэйшыя людзі кажуць, што ў гэтым уся бяда. Калісьці, кажуць, гэтага не было. Правініўся, дык настаўнік, або поп, як прыложыць, дык доўга памятаць будзеш, каб культурна сябе весці. Так кажуць старэйшыя. Мы ведаем, што не ў тым справа, каб біць вучня. Трэба сказаць ясна, што вельмі часта якраз старэйшыя даюць дзецям дрэнны прыклад. Калі цяжарная жанчына прыдзе ў краму нешта купіць, ці зойдзе ў іншае месца ўладзіць справу, дык у чарзе ніхто не рушыцца, каб прапусціць яе ўперад. А на жанчыну, якая асмеліцца аформіць сваю справу без чаргі, усе глядзяць, як на ваўка. А гэта ж дрэнны прыклад для малых.

**М. Панфілюк**

## Са Слоі ў свет

Многа маладых людзей пры старой Польшчы было толькі парабкамі і пастухамі. Народная ўлада шырока адкрыла дзверы ў навуку. З пастухоў і батракоў сталі інжынеры, афіцэры, магістры, прафесары, тэхнікі.

Іван Хомік з вёскі Слоя нарадзіўся ў беднай сям'і, дзе было 8 дзяцей. Пры Савецкай уладзе дайшоў да 5 класаў. Калі закончылася вайна ў 1945 г., Івану было ўжо 17 год. Хацелася хлопцу вучыцца, але ў яго ж толькі 5 класаў. З такой адукацыяй не прымалі ў сярэднія школы. А ў 1948 годзе ў Старых Юхах паўстаў двухгадовы народны універсітэт, які вучыў светліцовых, інструктараў самапомачы хлопскай і г.д. Удалося і Івану Хоміку паступіць у гэты універсітэт. Закончыўшы яго, пайшоў у войска. Там яго накіравалі ў афіцэрскую школу ў Лодзь, дзе ён атрымаў званне паручніка. Пасля служыў у ваенным флоце ў Гдыні. Тут працуючы, вучыўся ў вайсковай акадэміі. Хутка атрымаў званне капітана, а потым камандара. Цяпер ён ужо падпалкоўнік. Жыве ў новай прыгожай кватэры, купіў машыну „Шкода". Дзеці вучацца ў школах. **Т. К.**

## Яшчэ адна выгада

Дагэтуль у Шудзялаўскай гміне тэлефон быў толькі ў школе і ва ўпраўленні сельскагаспадарчага гуртка. Калі трэба было пазваніць у хуткую дапамогу, дык бяжыш, бывала, да тэлефону 5—7 км. Былі выпадкі, калі хуткая дапамога прыязджала запозна.

На днях па ўсёй Шудзялаўскай гміне да кожнага солтыса правялі тэлефоны. Цяпер жыхарам гміны Шудзялава не трэба ўжо бегаць да тэлефона далёка, бо ў кожнай вёсцы ў солтыса ён ёсць на месцы. **Т. К.**

## Новы прадаўшчык

Доўгі час прадаўшчыцай у Спічках працавала Марыя Себясевіч. Яна вельмі добра працавала, старалася, каб у краме было шмат тавараў. За гэта цанілі яе жыхары нашай вёскі. Калі яна не захацела быць прадаўшчыцай, узніклі вялікія цяжкасці з выбарамі новага прадаўшчыка. Пасля вялікіх намаганняў, прадаўшчыком быў выбраны Уладзімір Чурак. Ён ведаў, што калі не знойдзецца прадаўшчык, дык закрыюць краму ў вёсцы. Жыхарам тады было б сапраўды цяжка штосьці купіць. За пакупкамі трэба было б ехаць у Орлю ці ў суседнія вёскі.

У. Чурак стаў прадаўшчыком і не дапусціў да таго, каб у Спічках закрылі краму. За гэта яму падзяка.

**Васіль Асеннік**



## Дзе прадаваць яйкі?

У Вярхлессі Сакольскага павету на працягу ўсіх пасляваенных гадоў ёсць крама. Але крама гэтая ўжо даволі даўно не скупляе ад гаспадароў яек. Сяляне вёскі Лазніска і Вярхлессе маюць вялікі клопат са збытам яек. Многа раз іх радныя на гмінных сесіях гаварылі аб гэтай справе. На канец клубовая мясцовага клуба згадзілася скупляць яйкі. Добра стала людзям. З блізкіх Лазніскаў людзі прыносілі. Але гэты пункт скупкі нядоўга існаваў. І зноў цяпер людзі з Вярхлесся і Лазніскаў возяць прадаваць яйкі ў Старую Камянку або ў Саколку. **Т. К.**

## Нават прывыклі

У Дубічах ужо асфальт праклалі, але ёсць месцы, дзе вада пасля дажджу стаіць, як і даўней. Найбольш насупраць медычнага пункта — вады тут па калені, можна нават карпаў гадаваць.

Праўда, мясцовыя ўлады думаюць ужо нешта зрабіць, каб вада не стаяла. Работы мала, трэба толькі падняць кусок тратуару. Некаторым, праўда, нават падабаецца гэтая вада — ёсць дзе абмыць гумовыя боты, калі прыязджаюць да лекара. **П. Д.**

**З КУЗАВЫ**

## Цёмная вуліца

Кузава налічвае больш 100 гаспадароў. Вёска ўжо злучылася з Чаромхай-станцыяй. Асталася толькі па-даўнейшаму граніца на рэчцы Нурчык (дарэчы: дарожныя нашы ўлады паставілі паказальнік, што з Чаромхі ў Кузаву 1 км, няўжо мосцік праз Нурчык пашырыўся аж да 1 км?).

Ад Чаромхі на даўжыні 500—600 метраў вёска Кузава не мае вулічнага асвятлення. Няўжо Чаромхаўскай гміне не хапае грошай на некалькі дадатковых лямпачак? Неасветлены кусок вуліцы можа быць прычынай няшчасных выпадкаў. З ярка асветленай Чаромхі адразу трапляеш на цёмны мосцік, які нават не мае бар'ераў. У адлегласці 100 м за мостам ёсць непрыкметны круты паварот — тут крыжуюцца дарогі. У гэтым месцы, асабліва ноччу, можа быць няшчасце. Ці тады толькі будзем шукаць вінаватых?

## Калі будзе?

— Калі будзе скупка бутэлек у кузаўскай краме? — пытаюць безупынна жыхары вёскі. Цяпер трэба насіць бутэлькі аж за 2 км у Чаромху. Прадаўшчыкі кузаўскай крамы (яны часта змяняюцца) не хочуць купляць бутэлек. А чаму? Думаю, што апошняе слова ў гэтай справе належыць ГС у Кляшчэлях. Калі я размаўляў з кіраўніком філіяла ГС у Чаромсе, Пятром Грайко, дык думаў, што справа будзе вырашана хутка. Дагэтуль аднак нічога не змянілася. Няўжо прадстаўнікі гандлю пускаюць сваё слова на вецер?

**Мацейка**

*ПАШТОЎКА З ЧЫЖОЎ*



*Вуліца ў Чыжах.* *Фота Я. М.*

### ЮБІЛЕЙНЫ З'ЕЗД

У палавіне ліпеня адбыўся ў Белавежы юбілейны з'езд дэндралагічнай секцыі Польскага батанічнага таварыства. Удзельнічала каля 100 вучоных, у тым ліку 35 чалавек з Чэхаславакіі, 2 — з Венгрыі, 2 — з ГДР і 1 — з Югаславіі. Пасля пасяджэння вучоныя наведалі запаведнікі зуброў і прыроды, а таксама прыродазнаўчы музей.

**П. Байко**

### КІНО Ў СПІЧКАХ

Прыехала кіно ў Спічкі. Вельмі ўзрадаваліся жыхары вёскі і асабліва моладзь. Прыйшло многа людзей на фільм. Аднак фільмы былі не надта цікавыя. Другі ўжо раз паказвалі фільм „Памылка шэрыфа" і „Анатомія кахання". Больш гледачоў старэйшага пакалення была на фільме „Памылка шэрыфа", а на другім — наадварот. Жыхары Спічкоў чакаюць, каб кіно прыязджала часцей і каб паказвалі навейшыя фільмы.

**Васіль Асеннік**

### РАБІЛІ — НЕДАРАБІЛІ

У мінулым годзе рабілі тэлефонную лінію з Трасцянкі ў Пухлы. Было гэта ў месяцы снежні. У першыя дні чэрвеня падключылі апарат у Пухлах, але дагэтуль не падключылі на пошце ў Трасцянцы. Жыхароў вёскі Пухлы цікавіць, праз колькі яшчэ часу спалучаць нас з тэлефоннай цэнтраляй?

І яшчэ адносна тых жа тэлефонаў. Толькі паўгода прайшло, як правялі тэлефонныя правады, а ўжо паваліліся слупы. Ляжалі яны на зямлі, і толькі ў час сенакосаў гаспадары злітаваліся, паднялі гэтыя слупы і пападпіралі калкамі. І што тут рабіць ва ўсёй гэтай справе? Мы не ведаем, куды звяртацца. (аг)

**Ад рэдакцыі.** Гэта справа Раённага тэлекамунікацыйнага ўпраўлення ў Бельску (РУТ), які сваёй дзейнасцю ахоплівае і Гайнаўскі павет.

### КАЛІ БУДЗЕ ПАБУДАВАНЫ ВАКЗАЛ ПКП У ГАЙНАЎЦЫ?

Хто быў у Гайнаўцы адразу пасля вайны і ўбачыць горад цяпер, гатоў не пазнаць яго. Тут пабудаваны новыя заводы, жылыя кватэры, вуліцы, установы. Аж сэрца радуецца, калі глядзіш на ўсё гэта!

І ўсё было б добра, каб людзі сядзелі дома, нікуды не ездзілі. Але трэба паехаць у свет і трэба ісці на станцыю ПКП. А тут што бачым? Многія з чытачоў ведаюць гайнаўскую станцыю. Яна ўжо ўнікат у Польшчы — такой другой няма. Гэта проста барак, збіты з дошак, а каб чарвякі не з'елі яго, штогод малююць фарбай.

Сёлета наша станцыя святкуе юбілей — 30 год свайго існавання. І па той прычыне дырэкцыя ПКП яе аднаўляе, але не стараецца пабудаваць новую, каб у лепшым стылі адзначыць юбілей гайнаўскай станцыі. Павінен жа быць некалі канец барачнаму гайнаўскаму вакзалу! Хопіць сораму ўсім жыхарам. А калі гэта будзе, дык найлепш ведае дырэкцыя ПКП у Варшаве і ад яе мы чакаем адказу.

**Раса**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

### ДЗЕСЯЦЬ РАЗ ПАДУМАЙ — РАЗ СКАЖЫ

**АДКАЗВАЕ:**

**ZASTĘPCA NACZELNIKA MIASTA W HAJNÓWCE.**

W odpowiedzi na pismo z dnia 15.06.1974 r. dotyczące nazw ulic na osiedlu Podlasie w Hajnówce tut. Urząd informuje, że w związku z odbytą Sesją Zwyczajną Miejskiej Rady Narodowej w Hajnówce z dnia 4 kwietnia 1973 r. padły propozycje nowych nazw ulic w Hajnówce osiedle Podlasie.

1. Żabia lub Nowosielska
2. Bociania lub Pokorna
3. Kacza lub Zacisze
4. Gęsia lub Daleka
5. Czajki lub Podleśna

W związku z tym, że były dwie propozycje, jedna z nich została przyjęta z w/w nazwami ulic: Żabia, Bociania, Kacza, Gęsia, Czajki.

Tut. Urząd w Hajnówce zgadza się z notatką korespondenta o nazewnictwie tych ulic na nowopowstałym osiedlu, która wpłynęła do Urzędu, lecz nie widzi możliwości zmiany, ponieważ większość osób jest już zameldowana na adres w/w ulic, oraz własność działek nadana Aktem Notarialnym na w/w ulice, a większość Obywateli z tych ulic korzysta z kredytu w PKO i Banku Spółdzielczym.

W związku z tym, że zmiana nazw ulic w dzielnicy, o której mowa, wymaga dokładnego przeanalizowania, tut. Urząd nie jest w stanie załatwić sprawy w najbliższym czasie.

**Zastępca Naczelnika Miasta**
**(—) Lech Kocięcki**

**NIWA 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1. TELEFON 2-32-41. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Wydawca RSW „Prasa—Książka—Ruch". Indeks 36911.**

